# „МАЛАНКА“

ЧАСОПІСЬ
ГУМАРУ,
ЖАРТАЎ
і САТЫРЫ.



1927.



Рэдакцыя „МАЛАНКА“ Вільня, Гэтманская вул. № 4.

Друк. Крэйнэс і Кавальскі, Вільня, Вялікая 39.

Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem
ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ
АСОБНЫ НУМАР 30 ГРОШ.



# Маланка

**Гумарыстычная 2-х тыднёвая часопісь.**



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4 «МАЛАНКА» | № 3 5 САКАВІКА 1927 г. | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 год 8 злот., „ паўгода 4 „, „ тры мес. 2 „, „ адзін м. 1 „ — За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт. |
|---|---|---|





## Клапоты польскага газэтнага пісакі.




**ПАН ОБСТ (z «Dziennika Wileńsk.»):** Вось цяжкія часы насталі для нас журналістаў: «Грамада» спыніла сваю дзейнасьць, беларускія паслы арыштаваны і вывезены аж да Вронэк, аб чым-жа цяпер пісаць і каго цяпер лаяць?!..




КРАПІВА.

## Ці то — здольны пясьняр, Ці то — модны пляткар?

*(Каму прысьвячаецца, дык той дагаецца).*

Ад зары да зары
Усё сядзяць песьняры —
Пішуць песні свае пролетарскія.

Каб-жа іх зразумець,
Тлумача трэба мець —
Без яго яны нам, як татарскія.

Не мажэ ні адзін
Зразумець селянін
Гэтай песьні, таксама й рабочыя —

Ці то — здольны пясьняр?
Ці то — модны пляткар?
Зразумець не магу, кажу ў вочы я.

Песьні ўсё-ж не для мас, —
Іх чытаць — трэба час,
І чытаюць іх толькі аматары.

Яны скажуць падчас:
„Вось дык сплёў выкрутас!
Ну і штучна-ж пляце, ліха матары“...

Згвалчан вобразам зьмест,
Заяўляе протэст
І ў людзей чытачоў просіць помачы,

А як возьме чытач,
Дык тут зноў хоць ты плач —
Абалдзее саўсім, голаў ломячы,

І кляне песьняра:
„Не зламаў ён пяра!“
Беларускіх кляне і Есеніна *),

Што ў Расеі ў свой час
Плесьці стаў „выкрунтас“
І пазычыў такога насеньня нам.

*) Расейскі поэта — імажыністы.

## СЬВЕЖЫЯ НАВІНЫ.

× Кажуць, што ад часаў маёвага перавароту занатавана шыбкі узрост насяленьня на „Лукішках“, дзе не хапае кватэраў для ўсіх жадаючых туда папасьці.

Аналёгічнае з гэтым зьявішча заўважана за апошні час у „цяжкім вастрозе ў Вронках“ (каля Пазнані). Калі гэтакі шалёны узрост будзе трываць далей, дык прыдзецца адсылаць арыштаваных беларускіх паслоў і дзеячоў на востраў сьв. Алены, Мадагаскар, або на нядаўна адкрыты паўночны полюс.

× Кажуць, што ў сувязі з масавымі конфіскатамі беларускіх газэтаў, рэдакцыі гэтых газэтаў маняцца перанесьціся на плянэту Марс, дзе, як нас інфармуюць, няма прэсавых уставаў.

× Кажуць, што сяляне Заходняй Беларусі маюць завесьці электрычныя машынкі для штучнага даеньня кароў, бо даеньне ручным спосабам па сыстэме пасла Галавача прасьледуецца як праступак, папоўнены на „гарачым учынку“ дзяржаўнай здрады.

× Кажуць, што на Беларускіх настаўніцкіх курсах, якія пачнуцца ўвосень с. г. гаварыць пісаць, пяяць, сьвістаць і думаць пабеларуску—будзе забаронена.

× Кажуць, што ў «Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры» ў хуткім часе мае распачацца вялікая гаспадарска-культурная акцыя. Дзеля гэтай мэты праўдападобна сьпешна выпісаны з Парыжа прафэсар модных скокаў (шымі, чарльстону, блэкбэтум і інш.).

× Кажуць, што некаторыя старэйшыя беларускія грамадзяне маюць выдаць інструкцыі для студэнскіх вечарынаў. У якіх, паміж іншым, абавязкова будзе вымагацца чытаньне агульнай вячорнай малітвы, і ўвядзеньне «пшэпісовай» вопраткі для студэнтак на ўзор віленскіх праваслаўных манашак.

ГАЛУБОК.

# Барысаўскі пан-Цялей.

*(Эпізод з сусьветнай вайны).*

Было гэта даўно, даўно, — помню, як сягодня, як мы, навабранцы, ў пяршыну зьявіліся перад яснымі вачыма фэльдфэбэля Біча. Прызнацца, то ня зусім добра кратаць нябожчыкавы костачкі, бо гэты Бічок памёр ужо (пухам яму зямелька!); але што-ж зробіш, калі надта сьвярбіць салдацкі язык: так і хочацца ўспомніць адну кароценькую справу.

Вось, знача, прыпёрлі нас у казарму і закамандавалі:

— „Сьмірна! Біч ідзе!“

Параўняліся хлопцы і узьвялі вочы на можнага пана.

— „Ну, хлопцы, — адазваўся ён, — буду пытацца; зразу адказваць, ані мур... мур...“

Сталі, салапячым, вытрашчыўшы вочы.

— „Ты якой губэрні? — паспытаўся ў першага.

— „Варшаўскай, проша пана“, — зразу адказаў той.

— „Што Варшаўскай, то гэта добра; але паноў тут нямашака, а Вашэ Благародзіе тутака стаіць, ці бачыш?

„А ты якой“? — пытае другога.

— „Седлецкай, проша пана!“

— „Глухі ты, ці якая хвароба? Я ня пан, а Вашэ благародзіе! Пасьмей хто сказаць „пан“, у морррррр...ду дам, лыч на бок зьвярну!

„Ты якой?“

— „Ломжынскай, проша пана...“ боязна адказаў навабранец.

Біч ня вытрымаў і трэснуў з размаху, як казаў, у морду.

— „Вось табе! Ня пан, а Вашэ благародзіе! Выб'ю зубы, дзесятаму закажаш... ліханька вашым мазгом, куды ні ткнёшся, пан ды пан, а сьвіней пасьвіць некаму!

„Ты якой?“ — спытаўся ў хлапца, што стаяў радком са мной.

— „Я... я... Барысаўскі, з-пад Халапеніч...“

— „Зваць як?“

— Зваць... Цялей...“

— Што гэта за імя? у пяршыну чую! Зводны, глянь у календар, ці ёсьцека там „Цялей“...

— „Нямашака!“—перагледзіўшы адказаў зводны.

— „Дома як цябе звалі, Халапеніцкі райдун?“

— „Дома, то мяне Пан-цялеем звалі, а тутка брат не абманеш: бачыў, як палякоў валіў у морду, бачыў! Не на варшавяка напаў, а на Барысаўца...“

# Астраномія на „Лукішках“.

Газэта „Słowo“ даносіла, што дырэктар Беларускай гімназіі Астроўскі займаецца *палітыкай* на „Лукішках“, бо выпісаў сабе да цэлі астранамічныя прылады.



Вось дык штука! Вось дык дзіва!
Хоць пражыў я з пару коп!
Ці з вас калі хто бачыў
На „Лукішках“ тэлескоп!

Хто там, хто парой начною
Глядзіць з-за кратаў у сусьвет.
Чаго хоча? Што шукае
Сярод чысьленных плянэт?...

Мо' глядзіць, ці там на Марсе,
На Сатурне, ці Луне
Арыштуюць „на учынку“, —
Таго, хто сьпіць салодка ў сьне

І ці брэшуць там газэты,
Як тут польскія якраз?
Не! бо Obst'аў, Cat'аў Bor'аў
Няма болей, — толькі ў нас!

Я. М.

Марко Бужанін.

# Сучасная калыханка.

Сьпі, сыночку, мая „меншасьць“,
Сны цябе вітаюць.
Там за цябе „рэчазнаўцы“
Пільна, добра дбаюць.

Ўжо для цябе панску школу
Ў вёсках збудавалі
І кантычку ў польскай мове
У Сынодзе склалі.

Каб ты ў працы ня ліў поту,
Зямлю далі іншым —
Бо й нашто-ж табе здалася,
Будзеш так вальнейшым.

А захочаш адпачыці,
Мець спакой, свабоду,
Дык дадуць табе бясплатна
Хату, хлеб і воду...

Сьпі, сыночку, мая „меншасьць“,
Страху ані знаку...
А як вырасьцеш — напэўна
Ім зложыш падзяку...

З украінскага

Я. М.

# Адзін другога лепшы.

— Дасі, сват, веры! Вось здарэньне,
Якога сьвет яшчэ ня знаў:
Пашоў у клець усыпаць зерня
І толькі сыпаць ў мех пачаў,
Аж скок з кутка ды па ячменю,
Ну проста ў мех мыша ляціць.
Я сьціснуў мех хутчэй у жменю,
І думаю, што тут рабіць?
Ці біць, ці не? Не, лепей мёду
Хай кот пакажаць шэльме ей!
Заціснуў мех ды з клеці ходу
Я за катом на печ хутчэй.
Схваціў ката, што духу пруся.
Прыбег у клець да катуха,
Пусьціў ката... як аглянуся:
Няма мышы, няма мяха!!!
— „Куды-ж іх хутка гэтак дзела?“
— А знаеш, сват, было як тут:
Мыша мяшок да ніткі зьела,
А сама ходу... Вось дык цуд!
— Гэта дрэнь, сват! што дзіўнога—
Палатняны зьела мех?
А ці паверыш, сват, у тое,
Што мышы зьелі мой лямех!
Паараў я ўвосень, што бадзяцца,
Ды іржавец дзе лемяху
(Адзін згубіў, сваток, прызнацца)
Зьбіў з сахі, ды у страху.
Прышла вясна, араць зачэлі.
Іду я лемеш даставаць.
І што я бачу: мышы зьелі
Увесь лемеш, каб іх ня знаць!
І што за зубы яны мелі
Сьвет ня бачыць ім па век:
Ну няхай зялеза зьелі,
А то і дзірку, дзе быў цьвек!“

Янка Башкір.

# Чорнае—прайграе! Чырвонае—выграе!..




**„Доктар азартных навук“ Паўлюкевіч:**

— Гэй, ахвотнікі, налятай! Публіка, падхадзі! У маёй „Biłoruskiej Chatce“ чорнае — прайграе! чырвонае — выйграе! Гэй, дуракі, — насіце пятакі! Хлапцы і пятнастоўкі, — насіце залатоўкі! Ў падзяку за прытон гэты, адозвы і газэты я рознымі хадамі і цэлымі пудамі па вёсках раскідаю. „Начальству зато милъ, — вѣдь я казённый полонофилъ!“

# Народны гумар.

### ДОБРА АДКАЗАЎ.

Пацяшаецца пан:

— Вось дык добра вашу „Грамаду“ ўжо скасілі!

А селянін яму адказвае:

— Але цяпер добрая атава расьце, бо добра, мусіць, пусьціла карані. С.

**24-га лютага с. г. па загаду Камісара Ўраду быў сконфіскаваны № 2 час. „Маланка“ за зьмешчаныя там часьць „Сьвежых навінаў“ і жарт „Усіх сьвятых“, абвінавачваючы нашага рэдактара з арт. 263 і 74 Карн. Кодэксу.**

**Нашай рэдакцыі толькі праз сем дзён удалося дабіцца ад належных уладаў, каб быў зьняты арышт з апячатанага набору „Маланкі“ і выпусьціць гэты номер са значным спазьненьнем.**

**Чарговы нумар (4) выйдзе ў аўтарак 15 сакавіка.**

### ПАНА І ПАНЮ І ДЗЯЦЕЙ.

Яшчэ за часаў паншчыны адзін пан вымагаў, каб сяляне прыходзілі яго віншаваць, а хто лепш павіншуе, таму даваў падарункі.

Вось сабралася трох сялян: Мікіта, Зьмітра і Лявон і пайшлі віншаваць пана з новым годам. Мікіта меўся казаць самае павіншаваньне, а Зьмітра і Лявон паўтараць: „пана, паню і дзяцей“.

Уваходзячы ў кватэру, дзе сядзеў пан, як на няшчасьце разьвязаўся лапаць у Мікіты. Нехта наступіў яму на абору і наш Мікіта паляцеў праз парог, як калода, аж у вачох зоркі забегалі.

— А каб цябе халера ўзяла! — кажа са злосьці Мікіта.

А Зьмітра і Лявон дабаўляюць:

— І пана, і паню, і дзяцей!

Што далей рабілася, можа дагадацца кожны. *Г. Д.*

### ДАСТАЎ.

— Кажуць, што Мацею Лазавому неяк удалося дастаць казённую зямлю?

— Яму паліцыя, доктар і ксёндз у гэтым памаглі.

— Вось дзіва! Ён-жа, здаецца, з імі ніякай справы ня меў?!

— Як ня меў! Камэндант — збадаў, доктар—агледзіў, а ксёндз—зямлю пасьвяціў... *К. С.*

### ШТО ТАГДЫ БУДЗЕ?

— Што тагды будзе, калі высекуць увесь лес?

— Вядома што: — пасека.

— Якая-ж там пасека, калі сякуць чыста-гладка, што праз некалькі гадоў, ня будзе і веніка наламаць.

— Праз некалькі гадоў, хто яго там ведае, што будзе. Кажуць, што праз некалькі гадоў асаднікі папрапіваюць свае гаспадаркі, ды наймуцца нам хаты падмятаць...

*К. С.*

## Прагаварылася.

(*Аутэнтычна*).

Суд... Жанчына каталічка дамагаецца алімэнтаў (адшкадаваньня на ўзгадаваньне дзіцяці), абвінавачваючы аднаго жыда. Адвакат у мове сваёй кажа, што калі праўда, што дзіця абвінавацелькі належыць да майго кліента-жыда,—дык дзеля гэтага яно павінна быць паддана опэрацыі абрэзаньня...

— Што? — крычыць матка дзіцяці — што? Гэта вы хацелі, каб я дзіця пробашча дала вам абрэзаць — што? Ну, вось бачылі, людцы мілыя, ці гэта ня ёсьць абраза Божая?...

(„Po wolność“).

### ПАБОЖНЫ.

Міхась будзіць бацьку, які заснуў у царкве ў часе казаньня.

— Татка, а татка! Уставайце, казаньне ўжо скончылася!

Бацька (прачхнуўся): — Ага, скончылася?... Дык налі сьвежага...

„Зиз“.

### ДОБРАЕ ЖАДАНЬНЕ.

— Кажуць, што сучасны літоўскі ўрад прэзыдэнта Сьметаны нядоўгавечны?

— Але. Ужо камуністыя і соцыялістыя пачалі барацьбу проціў яго.

— А чаго яны хочуць?

— Зьбіць сьмятану на масла.

*Я. М.*

### ДАЎНЕЙ І ЦЯПЕР.

*Паветовы староста*: А ты, хам, зьнімі шапку! Ня ведаеш хто я?! Я—твой стараста.

*Селянін*. Я даўней старшыне валасному ніколі шапкі ня зьнімаў, а то нейкаму старасьце буду.

## Каб за што, за сьмецьце тое.

Вось што знача юды-гады
З тэй—як біш... а—„подлай рады“,
Што вядзе ўсіх нас да здрады
Людцоў бедных.

Знаць і імя Паўлюк-Евіч,
Што калісь „Адама з дрэвам“
Каб яна была хварэла —
Спакусіла.

Бачу вам ўжо нецярпеньне—
Справа ў тым — сваё насеньне
Гэты лёкай Паўлюк-Евіч.
Кінуў да мяне.

Першы ліст як стаў чытаці
(Вось адозвай здэцца зваці).
Дык не дарма-ж ў маёй хаце
Адчуваўся жаль.

Бабка так і галасіла,
Бач пісаў: „нячыста сіла
Стала шлындацца па вёсцы“, —
Коцік морду мыў на ложку
(То прыкмета: будуць госьці)
А сабака выў.

Так і вышла, дабрадзеі.
Час ліхі прынёс падзеі,
Ад каторых сэрца млее...
Ну пачну сваё:

А мае-жа вы, браточкі,
Вось прыждаў і я тэй ночкі:
Дзьверы раптам заскрыпелі,
Не ўвайшлі, а прост' ўляцелі
Паліцманы.

Я ляжу так на пасьцелі:
Masz odezwy, komuniście?!
Скуль вы, скуль, кажу, *пшышлысьце?*
Дзе?—ні слова... наляцелі,
Нат' і ў портках паглядзелі;
Што-ж там знойдзеш?
Вось вярнуць пачаў паперы:
A tu co to do cholery?!
Я тут: Гэ...м...гэ, паночку...
Сам ад страху у куточку
Як асіна. —
— То адозва Паўлюк...—Czekaj!
— Co to hurtki—komjaczejki?
„*Веш, ты ест арэштованы*“
—Гэта-ж ваш, паночку, нейкі...
„Ён за грошы... ён праданы,
„Ён ад вас—гм... нам пастрахі...
А мяне між тым, пад пахі,
Ледзь пасьпеў жупан парваны
Ўзьдзець—ды з пачкаю паперы
Праз парог, афор за дзьверы.
Каб казаў за што якое —
Сорам мне, — за сьмецьце тое
Пёр, браткі, я сярод ночы,—
А той сьнег бы гад у вочы, —
Пёр і думаў:
Шлю за гэта, Паўлюк-Евіч,
Табе шчырую падзяку;
Каб ты тры дні поўзаў ракам,
Як я бедны, небарака.
Праз цябе у ноч такую
Й не адзін мо' пакутую.
Ну дык вось, браткі, адразу,
Калі маеце заразу
Хто такую,

Каб вас ўночы не цягалі,
Як мяне (ледзь не схавалі),
Прапаную:
Ураз адозвы Паўлюковы:
— Альбо на агні спалеце,
— Альбо назад адашлеце,
Альбо . . . . . . . . . . . .

**Міхась Васілёк.**

## Ня думайце, што я дзед, я—апасны сэрцаед!..



Я — не малая фігура! Ох, люблю я шуры-муры,
маё сэрца — агонь буры, растапіць гатова муры і
пусьціць свае „амуры“. Толькі вось дзяўчаты дуры,
як ад каршуна ўцякаюць куры,—мо' баяцца авантуры?!
Я — не малая фігура,—мастак слаўны па натуры!
Ці то шчасьце, ці то з дуру, я папаў ў літэратуру.

**„Вялікая Шышка“.**

## Усё роўна.

Поп спавядае селяніна і пытае ў яго:

— Чым грэшны?

— Ня ведаю.

— Можа рабіў што кепскае?

— Не.

— Можа што нядобрае падумаў?

— Гэта ўсе роўна грэх, — навучае поп.

Кончылася споведзь. Селянін пытаецца:

— А што вам, бацюшка, за фатыгу?

— Залатоўку, — адказвае поп.

Выняў селянін залатоўку, палажыў і, як толькі поп працягнуў руку, селянін схаваў назад залатоўку ў кішэнь, ды кажа:

— Гэта, бацюшка, усё роўна: ці я даў вам залатоўку, ці толькі хацеў даць.

*Г. Д.*

### ДАПЫТАЎСЯ.

Аднойчы гной вёз ў поле Ян,
Сустрэў яго ў дарозе пан
І запытаў: „*то яка весь?*“
Ян кажа: „не яшчэ ня ўвесь, —

У хлеве трошкі засталося“.
Пагнаў далей. „Но, кося, кося!“
А пан яго ізноў спыняе
І злосна нек яго пытае:

„*А пшэз ту жэку можно пшэйсьць?*“
Іван: ды не, ня будзе шэсьць!
Бо з гноем ў нас цяпер бяда,
Вазкоў ну, можа, будзе два.

### ДЗІЎНАЯ СПРЭЧКА.

Спрачаліся пантофаль, і панчоха з лапцем:

— Я — панскага роду! — кажа *пан*-тофаль.

— Я — панскага роду! — кажа *пан*-чоха.

— А ты — дурны мужыцкі лапаць! — адказваюць яны разам, дразьнячы лапця.

— Хоць і панскага роду, але прыблуды, — адказвае лапаць. А я—тутэйшы гаспадар свайго краю, дый жывецё вы з мужыцкага мазаля.

*Тры...*

# МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН

## Сусьветныя рэкорды.

Завідна робіцца чытаючы, што ў Амэрыцы, Англіі, Францыі, Радавых Рэспубліках і іншых людзі здабываюць сусьветныя рэкорды па аэроплянах, скачках на конях, на лыжах, плаваньнем па моры, праз канал Ля-Манш і гэт. далей.

Адзін англійскі сілач-боксэр затое што ўмеў добра ўладаць кулаком, — дастаў вялікую прэмію — 150 тысячаў фунтаў штэрлінгаў.

Жартачкі 150 тысячаў! — гэта-ж каля 7-мёх мілёнаў польскіх злотых, або болей мілёна пудоў жыта аднаму чалавеку за некалькі ўдараў кулаком!

Вось добра было-б і нам беларусам выступіць на міжнародных конкурсах,—праславіць сваё імя на ўвесь сьвет, а галоўнае адтрымаць вялікую нагароду.

Але, дзе і як?

Хто з нас, беларусаў, асьмеліцца выступіць на міжнародных спартовых конкурсах?

— Ну, хто?..

— Ну, хто!..

Вось, каб былі конкурсы на найбольшы лік паседжаньняў, або найбольшую непунктуальнасьць, дык мне здаецца, мы беларусы здабылі-б сусьветны рэкорд.

Вам сьмешна!..

Едзьце да Вільні,—дык пераканаецеся.

Тут, браткі, на кожным кроку, штодня, штомінуты паседжаньні... паседжаньні і... паседжаньні.

Сёньня паседжаньне камісіі,

Заўтра — сэкцыі,

Пасьлязаўтра — прэзыдыуму, а далей — камітэту, рэвізыйнай камісіі, таварыства, нагляднай рады, гуртка, управы і гэтак бяз ліку...

Вось беларусы змышлёны народ! — якіх яны толькі інстытуцыяў не натварылі, а ўсё дзеля таго,—каб усё ў паседжаньні забаўляцца.

Гэтак, як пачнеш хадзіць па паседжаньнях ад панядзелку, дык аж ледзь у суботу скончыш. А часам, калі мала бывае дня, дык і ночай намагаеш. Сядзіш на гэтых паседжаньнях — дэбатуеш. Сабяруцца два-тры беларусы і ніяк да ладу прысьці ня могуць. Хоць ты, як даўней, з-за мора варагаў заві, каб ішлі кіраваць намі.

Нашто мая жонка — лагодная, як анел, а яна на мяне ўсё за паседжаньні крычыць:

— Ды я табе,—кажа,—ніяк тваіх штаноў не налатаюся,—на тых тваіх паседжаньнях чыста прашараваў!

І праўда,—паглядзеў я: сьвяціцца на сонцы, як сіта якое.

Дык вось хто дасужы, хай з алавіком у руках падліча, колькі паседжаньняў у год прыпадае на аднаго беларускага дзеяча, і адтрыманыя лічбы параўняе з лічбамі іншых дзяржаваў, а... тагды пераканаецца, што Заходняя Беларусь, лікам сваіх паседжаньняў здабыла сусьветны рэкорд, аб якім, ані дзяды, а ні прадзеды нашы ня сьнілі.

Дык вось пара і нам беларусам выступаць на міжнароднай арэне і імя сваё пакрыць сусьветнай славай.

Хай лікам паседжаньняў дараўняецца да нас Англія, Нямеччына, ці іншая дзяржава! А хто гэтаму ня верыць,— хай мае пацыраваныя штаны паслужаць, як доказ рэчовы.

Гэтак, здабываючы сусьветны рэкорд, мы можам яшчэ раз палажыць кожную дзяржаву на абедзьве лапаткі сваей „пунктуальнасьцяй“.

— Ці чулі вы, каб напрыклад, у Англіі, Амэрыцы і інш. пазьніліся людзі на дзьве і болей гадзіны на паседжаньне?!

— Ня чулі?..

— А ў нас? — У нас спазьніцца на гадзіну, другую ўважаецца за добры тон.

— Як-жа гэта прыйсьці на пару, — яшчэ падумаюць, што занятка ў ня маю, альбо што?!

Ну і позьняцца людзі, як толькі хто можа.

Нядаўна было адно вельмі важнае паседжаньне. У абвестцы значылася, што *пачатак пунктуальна а пятай гадзіне.*

Пакуль тое, ды сёе,—спазьніўся і я на паўгадзіны. Бягу, як хутчэй, — сьпяшаюся, аж пара з мяне валам валіць. Не аднаго штурхнуў, аднаго з ног зьбіў, сам разоў пяць рэзнуўся на сьлізкім тротуары, але затое лячу экспрэсам:

— Як-жа, там паседжаньне пачалося, а я спазьніўся!

Прыходжу.

Ціха...

— Вось дзіва!—што гэта—паседжаньне нямых?..

Адчыняю дзьверы. Пуста. Толькі адзін сябра сядзіць, а трэба дваццаць адзін.

Чакаю паўгадзіны — яшчэ адзін.

Чакаю гадзіну—ўжо пяць.

— Шкада,—думаю, што падушкі ня ўзяў,—добра было-б тут у куточку храпнуць, пакуль паседжаньне ў поўным складзе пачнецца.

Сядзім, гутарым з нуды, хто пра палітыку, хто пра хлеб, хто пра дзяўчат, а я ўсё слухаю, ды на дзьверы паглядаю.

Скрыг... уваходзіць адзін, праз пяць мінут другі, праз чэцьверць гадзіны трэцьці і... праз дзьве з лішнім гадзіны было столькі, каб можна было пачынаць паседжаньнэ, — быў, як кажуць, „кворум“.

Добра, каб на гэтым скончылося.

Але, дзе там! Заўтра — другое паседжаньне, пасьлязаўтра трэцьцяе і гэт. далей і... кожны раз нуднае чаканьне „кворуму“.

Дык вось, браточкі, мая рада:

— Хутчэй за граніцу на міжнародныя конкурсы паседжаньняў і пунктуальнасьці!

Там—мы пакажам хто мы!!

Там—мы пакрыем імя сваё сусьветнай славай!

Там—амэрыканскія даляры і ангельскія фунты штэрлінгаў пасыплюцца ў нашыя кішані...

Хутчэй! Хутчэй!

**Янка Маланка.**

## Даносчык.

Можа чулі ўжо няраз,
Што ў ваколіцы у нас
Грышка ёсьць такі адзін —
Баўтрукоў завецца сын.

Усё па хатах, як сабака,
Ходзіць Грышка, небарака,
Ўсюды нюхае, сачыць,
Хто гавора, ці маўчыць.

Хто ў каго, калі бывае,
Хто гасьцей к сабе прыймае,
Дзе бываюць вечарыны,
Ці вясельлі, ці радзіны.

Дзе зьбіраецца народ
На сабраньне, або сход,
Гэта Грышка прымячае,
Дый на вус сабе матае.

А назаўтра, ўзяўшы клунак,
Прэцца ён на пастарунак,
А у клуначку мядок
Нясець Грышка ў Гарадок,

Там трактуе паліцаяў
Дый дэносіць ўсё, што мае:
Як што бачыў, чуў і дзе
Аб сялянскай грамадзе.

Да ўсяго таго, як можа
Ён набрэша, дый даложа,
Што па ўсіх яго славах
Бяруць дрыжыкі і страх.

. . . . . . . . . . . . .

Мо'Грышка-даносчык уцяме,—
Што нарэшце апыніцца ўяме,

Ў тэй, што для іншых капае,
Бо стыду ў яго не хапае.
Хай памятае, што гэты мядочак
Яму выйдзе, напэўне, праз бочак.

**Жэшка.**



## Культурнікі.

Ёсьць-жа гэткія людзі на сьвеце.

Яны — ці пішуць газэты або яшчэ тое-сёе пішуць, сьпяваюць песьні, лекцыі чытаюць, вучаць дзяцей...

Ды ўсяго й не пералічыш!

А ў нашым руху трудна жыць гэт. званаму культурнаму работніку, калі ён лёсам загнаны сюды ў Заходнюю Беларусь.

Бо калі пападзе ён у лік патэнтованых „культурных дзеячоў" (як гэта прынята пісаць у газэтах), дык лёгка можа разам нават з паслам апынуцца на Лукішках, адтуль можа паехаць аж у Вронкі...

Калі ўмее і захоча пісаць у газэтах, дык ня ў кожнай газэце патрапіць гэта рабіць, бо...

Трэба-ж хрысьціцца ў тую ці іншую партыйную веру...

У адным толькі месцы ёсьць яшчэ прытулішча для культурнікаў ды яшчэ якіх!

Гэта — ў „Białoruskiej Chatce w Wilnie", у якой штодня адбываецца найкультурнейшае „бѣлорусское дѣяніе" —

Gra świetlno-kolorowa!

Ня верыце?

А я ў гэтым пераканаўся.

І як арыгінальна.

Ого!

Бягу нядаўна каля гэтае самае „Białoruskiej Chatki" злавіць кагонібудзь знаёмага на Міцкевічавай вуліцы і „стрэліць" у яго паўтары монэты на палудзень, аж:

Тыц!..

Сустрачаю старога колегу, пісьменьніка даваенна-дарэвалюцыйнай нашай гэнэрацыі — Я. Пілілавага.

— Пішаш? — пытаюся.

— Нашто? — зьдзівіўся той.

— Дзе-ж друкаваць?..

— А „Białoruska Chatka" мае ца пусьціць альманах ці месячнік. Не прапанавала?..

Таварыш зрабіў вясёлую міну:

Насустрэчу нам папаўся малады чалавек, які скончыў Радашкаўскую Гімназію.

Умяшаўшыся ў гутарку аб альманаху ці месячніку, спытаўся й ён.

— Хто-ж там „w Chatce" мае гэты месячнік выдаваць?

— Ня чулі? Рэдактар... Тодар.

— Кіньце Вы думаць...

— Чаму? — перабіў я.

— Ды гэта-ж... Называйце, як хочаце, а толькі вось што я Вам скажу. Калі я вучыўся ў Радашкавічах, а гаспадаркаю нашае Гімназіі варочаў гэты самы Тодар, дык во якую штуку выкінуў.

— Ну, ну? — падхапілі мы разам абодва.

Бышы гімназісты далей расказваў:

— Як ведаеце, ў гімназіі там галіта. І вось мы надумаліся памагчы бядзе тым, што ўладзілі вечарыну на карысьць незаможных вучняў. Каб не рабіць спэктаклю з білетамі, пастанавілі спрабаваць ахвярнасьць публікі. Паставілі пры ўваходзе на вечарыну скарбонку з адпаведным надпісам і... разумееце. Скарбонку запячатавалі, але прышло нам да галавы:

Спраўдзіць Тодара.

Калі першы акт скончыўся, дык так, каб Тодар ня бачыў, расьпячатавалі скарбонку, палічылі грошы, паклалі іх назад у скарбонку дый зноў яе запячаталі.

Вечарына скончылася. Здалі мы скарбонку Тодару. „*Надо коммиссію, — сосчитать*",— кажа ён. — „Якую там яшчэ камісію, дзядзька Тодар! Бышаму ўсебеларускаму скарбніку, — як Вы сябе завеце, — мы верым".

Так мы яму адказалі.

А трэба вам сказаць, што па нашым аблічэньні ў скарбонцы было 48 злотых 17 грошай, 20 расейскіх капеек, тры гузікі...

Назаўтра Тодар нам заявіў, што ўвесь даход ад вечара = 15 злотым.

— Як? — загулі мы ўсе, — ніякіх-жа ж расходаў ня было. А ён а ні зачырванеўся нават і кажа, што ў скарбонцы толькі 15 зл. і было. Ну, дык падумайце-ж — што гэткі чалавек можа выдаваць?...

Тут мы разьвіталіся, пайшоўшы, як той казаў, хто куды каторы.

А яшчэ праз дзень я даведаўся, што ў „Białoruskiej Chatce" было цікавае „паседжаньне".

Галава гэтай „Chatki" і ўсякіх іншых сваіх „хатэк", лекарскіх навук „доктар" (якраз, як некалі сам Скарына) бегаў па „świetlno-kolorywej" залі і... зьбіраў подпісы:

— *Подпишите, подпишите! Понимаете?* — падганяў ён усіх сваіх сатэлітаў.

У чароднай яго рэзалюцыі, што мела быць апублікованай у тодараўскім „Усерускім Слове", быў, паміж іншымі і гэткі пункт:

... прыступіць да выдаваньня журнала (з *а* на канцы!) месячніка, ў супрацоўнікі якога запрасіць усе беларускія мясцовыя і эміграцкія сілы з сусьветна вядомым імем... Запрашэньні супрацоўнікам разаслаць на ўсе вядомыя астранамічнэй навуцы плянэты...

Дык вось дзе сапраўдныя культурнікі!

Найтыпічнейшы з іх—гэта „рэдактар" Тодар, што скарбам іх варочае.

Вось каму непатрэбен ніякі „Саюз лішніх":

Прыступаюць да выданьня!

Пішуць рэзалюцыю!

Шумяць, як Рэпеціла ў!

І пад шум гэты (зусім нятрывожны) спрытна робяць свой *сьветльно-колёровы* інтэрас.

**Звончык.**

## З бальшавіцкага гумару.



— Мой цяпер піва ў рот не бярэць...
— Што вы, кума, кажаце?!
— Гарэлку жлочка гэрад пракляты!

# Усюды ганяюць, усюды сьмяюцца...

*(З беларуск. народн. гымну).*




Як памятку аб арыштаваных паслох „Грамады“ падаём карыкатуру з аднэй польскай газэты, дзе беларускіх паслоў сілай выносяць з салі паседжаньняў Сойму за обструкцыю. Дзеялася гэта ўлетку мінулага году пасьля маёвага перавароту.

1) пас. Тарашкевіч, 2) пас. Мятла, 3) пас. Валошын пас. Воевудзкі (з „N P. Ch.“).

---

## Добрасуседзкая дружба.




Вось як фактычна выглядаюць „добрасуседзкія адносіны“ паміж двама „братнімі суседнімі дзяржавамі, яшчэ нядаўнымі вэрсальскімі саюзнікамі“.

„*Известия*“ (*Масква*).

## НАША ПОШТА.

**А. Дзіўны.** Чытаючы Ваш верш, наш рэдактар доўга круціў носам дый сказаў: „у кошык!“

**М.—Ду.** Вельмі рады, што Вы сьвядомы беларус і ведаеце наш народны гымн, але ўсё-ж такі верша Вашага аб шляхце зьмясьціць ня можам,—вельмі ён слабы.

**Бадзюлька.** Верш Ваш добры і гумарыстычны, але троху з «сальцам», а мы гэтакіх не зьмяшчаем.

**Мацей з-пад Слоніма.** Вашы вершы—пераробка старых, усім ведамых народных баек. Мала ў іх гумару і поэзіі, а дзеля гэтага ня могуць пабачыць сьвету ў „Маланцы“.

**Максім Кветка.** Верш свой канчаеце словамі:

„А кабеціне яшчэ ляпей,
„Яна крычала: Ой! ей-ей!..

Наш рэдактар гэтак сама крычаў, калі чытаў Ваш верш, але яму ляпей не рабілася. Верш пайшоў у кошык.

**І. Цімаш...** (Латвія). На гэты раз Вашы „жарты“ пайшлі ў кошык. — Няма гумару.

## Няволя і „няволя“.



**б. кайзэр Вільгэльм да правадыра мароканскага паўстаньня — Абд-эль-Крыма:**

— Які ты дурны! Пасьвяціўся для свайго народу, які даў табе фігу... А мой дае мне добрую ўспамогу.

**„Lachen Links“** (*Берлін*).

---

Рэдактар-выдавец **М. Луцэвіч**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.

ЦАНА КАМПЛЕКТУ — 2 зл. 70 гр. (з паштов. перасылкай) — ТРЫ ЗЛОТЫХ.